# ЧАСОПІСЫ ў лютым

ПОЛЫМЯ БЕЛАРУСЬ МАЛАДОСЦЬ

## «ПОЛЫМЯ»

У нумары — аповесць Васіля Быкава «Круглянскі мост», франтавыя нататкі Якава Герцовіча «На вайне як на вайне», паэма Рыгора Барадуліна «Блакада», апавяданні ўкраінскіх празаікаў Валерыя Шаўчука, Яўгена Гуцалы, Андрэя Мястноўскага і Астапа Вішні.

Да 200-годдзя з дня нараджэння І. А. Крылова часопіс друкуе байкі вялікага пісьменніка ў перакладах Алеся Бачылы і Уладзіміра Корбана і артыкул Янкі Казекі «Здабытак народу».

У раздзеле публіцыстыкі — ўрыўкі з дакументальнай кнігі І. Шубітыдзе «Палескія былі».

Часопіс публікуе некалькі дзесяткаў пісьмаў Якуба Коласа, што знаходзяцца ў фондах Літаратурнага музея пісьменніка.

У раздзеле навукі змешчаны артыкулы В. Еўціхевіча «Шануйце родную зямлю» (пра захаванне глебы) і А. Трухан «З позіркам у будучыню» (пра рэвалюцыйна-дэмакратычныя педагагічныя ідэі Кастуся Каліноўскага).

У раздзеле крытыкі і літаратуразнаўства — артыкул А. Адамовіча «Шырыня пісьменніцкага свету» (пра творчасць Кузьмы Чорнага).

Змешчаны рэцэнзіі І. Сачанкі і А. Слука — на кнігу Р. Булацкага «Зброяй слова», С. Грахоўскага — на кнігу ўспамінаў С. Шушкевіча «Вяртанне ў маладосць», Р. Бярозкіна — на кнігу А. Пысіна «Пойма», Р. Шкрабы — на аповесць А. Васілевіч «Доля знойдзе цябе», Ф. Яфімава — на першыя кнігі маладых паэтаў М. Дуксы, В. Ракава і Я. Вераб'я, М. Грынчыка — на даследаванне І. Шот «Фальклор у творчасці Янкі Купалы (дарэвалюцыйны перыяд)», выпушчанае выдавецтвам «Наука» ў Маскве.

Размову пра культуру мовы вядуць мовазнаўцы М. Алексяюк і А. Каўрус, крытык У. Юрэвіч. Часопіс працягвае публікаваць матэрыялы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў М. Клышкі.

## «МАЛАДОСЦЬ»

У раздзеле паэзіі і прозы — вершы Васіля Макарэвіча, Івана Калесніка, Віктара Гардзея, Казіміра Камейшы, Уладзіміра Правасуда, апавяданні Алеся Жука. Часопіс пачынае друкаваць дакументальную аповесць Адама Сцепаненкі «Палеская быль» — пра падпольшчыкаў Брагіншчыны. Надрукавана заканчэнне аповесці Эдуарда Ярашэвіча «Сцены аднаго дома».

Творчасці І. А. Крылова (да 200-годдзя з дня нараджэння) прысвечаны артыкул Я. Адамовіча і М. Мішчанчука «Гонар і слава літаратуры».

Змешчаны рэцэнзіі Д. Бугаёва на кнігу Б. Сачанкі «Апошнія і першыя» і Я. Шпакоўскага — на зборнік вершаў А. Наўроцкага «Гарачы снег». С. Панізнік у артыкуле «З бунтарскай душой» расказвае пра львоўскі перыяд жыцця Цёткі.

У раздзеле публіцыстыкі чытачы знойдуць успаміны генерал-палкоўніка запасу У. Тарановіча «Старонкі юнацтва», фотарэпартаж В. Ждановіча «Срэбра і золата рабочага горада» (пра Наваполацк), артыкул В. Грыцкевіча «Вачыма даўніх падарожнікаў» (заходнееўрапейскія падарожнікі XV—XVIII ст.ст. пра Беларусь), артыкул кандыдата гістарычных навук Л. Побаля «Пошукі прабацькаўшчыны славян», нататкі па беларускай этымалогіі В. Мартынава і А. Міхневіча, парады дзесяцікласнікам дацэнтаў БДУ В. Цікавага, В. Кузьміча, І. Зяцькова, М. Лукашэвіча, а таксама «Усмешкі маладосці» і спартыўны калейдаскоп.

## «БЕЛАРУСЬ»

У нумары змешчаны ўрывак з рамана Мікалая Аляксеева «Па закліку сэрца», апавяданні Міколы Гамолкі і Якуба Ермаловіча, вершы Рыгора Барадуліна, Станіслава Шушкевіча, Міколы Хведаровіча, Анатоля Канапелькі, Рыгора Семашкевіча. Да 100-годдзя з дня нараджэння Аванеса Туманяна часопіс друкуе вершы выдатнага армянскага паэта (пераклады Міхася Калачынскага).

Фотарэпартаж «У дні вялікага свята» (фота М. Мінковіча, М. Рубінштэйна і У. Крука) расказвае пра ўрачыстасці, якія адбыліся ў Мінску ў дні святкавання 50-годдзя БССР і КПБ.

100-годдзю з дня нараджэння Н. К. Крупскай прысвечаны артыкул М. Досіна «Паплечніца вялікага Леніна».

Нарыс М. Сергіевіча «След на зямлі» — пра старшыню калгаса імя Чкалава Салігорскага раёна А. Дубоўскага.

Сакратар парткома саўгаса імя Дзімітрава Камянецкага раёна А. Самуйлік у артыкуле «Сталая прапіска ў вёсцы» працягвае размову аб сельскіх прафесіях, якую распачаў часопіс у мінулым годзе.

Сярод іншых матэрыялаў чытачы знойдуць артыкул А. Шаўні «Мастацкая юбілейная» (пра Рэспубліканскую выстаўку выяўленчага мастацтва), міжнародны агляд Г. Кавальчука, нататкі М. Пятровіча з Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі, інфармацыі і допісы, якія расказваюць пра гаспадарчае і культурнае жыццё рэспублікі.

У раздзеле «Новыя кнігі» друкуюцца рэцэнзіі Г. Шыловіча — на кнігу М. Цікоцкага «У. І. Ленін і пытанні эстэтыкі публіцыстычнага слова», Р. Бярозкіна — на зборнік вершаў і паэм М. Хведаровіча «Зоркі на камені», Ф. Архіпава — на зборнік вершаў А. Наўроцкага «Гарачы снег».

**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ**
(«Беларусь»)

### АДЫХОДНІК

Вось ён узняўся, мужык —
крутадух,
Так, што аж сані завылі палоззем.
Тоўчанай цэглай нацёрты кажух.
Дзядзька — як слуп агню на
марозе.

Жонка, пасцілку-кітайку давай,
Бач во, цугляю каня маладога!
Салам не ў торбу, хлеб-каравай,
Пляшку гарэлкі давай на дарогу!

Зжыўся, дайшоў да пустога канца.
Сейце адны тут і ладзьце дажынкі.
Я не бяруся, — не абяцаў —
Ані за сінь-парашынку.

Я з малатком і з далатом
Стукну-прыстукну — і ўстане
будова.
З каменем-крэмнем, іскрой-
аганьком
Хлеб мой, а думае вёска —
дармовы.

Дзядзька тузнуў лейчыну, і як дым
Снег завіхрыў яго крыўду і словы.

. . . . . . . . . . .

Не вінаватыя ж людзі, што ім
Жыць так хацелася ў хатах новых.

**Анатоль КАНАПЕЛЬКА**
(«Беларусь»)

■ ■ ■

Хоць сэрца не змяшчае боль,
я не прашу спагады,
не прыкрываюся жальбой
ад жорсткае няпраўды.
Няпраўду цяжка разгадаць,
нялёгка з ёй змагацца:
патрэбны меч, каб нападаць,
і шчыт — абараняцца!

**Віктар ГАРДЗЕЙ**
(«Маладосць»)

■ ■ ■

Прыбег сюды, у цень зялёны бору,
Пасля грымотных, праліўных
дажджоў,
Каб наталіцца пахамі чабору,
Суседства папрасіць у верасоў.
Яшчэ зямля пад соснамі сырая,
Схаваная ў чырвані брусніц,
А бор шуміць, і я ў ім адчуваю
Дыханне стогадовых навальніц.
Дажджы ішлі, то ціхія, то з ветрам,
Дый сёння з той настырнасцю
ідуць...
Яны цякуць цераз лясныя нетры,
Зямлю перамываюць, як руду.
Пясчаны грунт...
Пясок залатаносны!..
Мой родны бор, ты шмат гадоў
вякуй!
Хай па крупінцы залатыя сосны
Дажджамі вымываюцца з пяску.

**Рыгор БАРАДУЛІН**
(«Полымя»)

## БЛАКАДА МАЎЧАННЯ

*(Раздзел з паэмы «Блакада»)*

Туга рэчкамі падперазаны
Курганы,
безыменныя ўзвышшы.
Тут маўчаць партызаны,
Што з блакады выйшлі.
Па варонках —
па свежых ранах
Гнала іх смерць,
смерць не драмала.
Іх, знясіленых,
Зацкаваных,
Толькі вера трымала,
Пагубляліся ўзводы,
роты.
Хто куды,
Разбрыліся барамі.
Не спускаліся самалёты,
Іх за лінію фронту не бралі.
Недавер'я цяжкую абразу
Моўчкі знеслі
[Блакада не ссекла].
І, шчаслівым,
з балот адразу
Ім даверылі
Самае пекла.
Пераправы,
цяжкія прарывы
Загацілі хлопцы сабою.
Палыну пасівелыя грывы
І цяпер
Вецер гладзіць з болем.

...Даўно стаў ветахам
Месяц мядовы.
Ды ён, і мядовы,
не быў салодкі.
І складчыну
горкую п'юць удовы.
Пеўні галовы
Кладуць на калодкі.
Вясну забралі
блакада, балоты.
Удовы
І ў дзень завейны пацелі.
Хапала спякоты,
Хапала слоты,
І толькі пяшчота
мінала пасцелі.
І верылі:
Прыйдзе чаканы,
адзіны.
Блакада-зайздросніца не
адпускала.
Халодная коўдра,
Падушкі-ільдзіны.
Усмешка плыла ў забыццё
ласкава.
Маток цыбулі —
ну, чым не каралі!
Бывала,
І брыгадзірам гадзілі.
За трох касілі,
За двух аралі.
За плугам і ў плузе
сваё адхадзілі.

Бабіна лета
Прабудзе нядоўга.
П'юць,
як радоўку сваю адбываюць.
Старых бабылёў
ахмялелыя ўдовы
Раўніва
Адна ў адной адбіваюць.

...Сасна,
падсочаная перуном,
Спрадвеку казалі людзі,
Не можа стаць бервяном —
Гусці ў навальніцу будзе.
Дзе знойдзеш сасну
Хоць адну
У партызанскім краі
такую,
Што выстаяла вайну,
Легла звонка ў сцяну
І навальніцу не ўчуе.

Ад грому аглухлі бары,
Падсочвалі сосны
снарады.
Тупіліся
Склюды і тапары
На папялішчах
пасля блакады.

Калі над Ушачай
лятуць журавы
І поўня спакойна барвее,
Запахне трывогаю
Мох баравы,
Жывіцай
заплачуць бярвенні.

...Па вясноваму цаліку
Партызанскай сцежкай патайнай
Сёння я прыйшоў
К Паліку
З невясёлым сваім пытаннем:
— Ты,
крывёю паліты
Палік,
Смуткам кожнае сэрца поўніш,
Хоць гадам сваім
Страціў лік,
Можа
бацьку майго прыпомніш!

Не адказвае мне
Палік.
Недзе плача самотны кулік,
Як душа,
Што збавення просіць.
Засмучоная,
змоўкла просінь...
На Палік
Адступалі яны —
Бацькавы дружбакі прыгадалі,
Пах трывожны
адталай сасны.
Да цішы прывыкаеш гадамі.
Успаміны не варушы.
Захлынае вясны бязмежжа.

Завіхаюцца мурашы —
Вавілонскую
ўзводзяць вежу.
Раскашуецца мурава,
Быццам раіць
На ўсё забыцца.
Ды сумуе
зямлянка-ўдава
У сваёй парудзелай світцы.
І ляціць
баравое ку-ку
Па зялёнаму Паліку.

— А мой Іваначка,
набудзілася я цябе,
А цяпер
Цябе дуб караніць, —
Над магілаю
Б'ецца матка...

Адыходжу.
Мне ў сэрца звініць
Імя спаленай вёскі —
Звінятка...

...Зноў вяшчае прыёмнік,
Што і як за марамі,
А ў бальніцы раённай
Партызан памірае.

Быў на сцюжах, на слотах,
Толькі не на Каўказе.
Ён прымаў у балотах
Зледзянелыя гразі.

Мае нават даведку
З подпісам камандзіра,
Што хадзіў у разведку,
Быў адважны і шчыры.

Быў крыху на вышынях
У раённых маштабах —
Пахадзіў у старшынях,
Брыгадзірах, прарабах.

Еў і спаў як папала
І не думаў пра гэта.
Самагонкі хапала,
Не хапала
асветы.

У гадах, а завочна
Людзі вучацца дзесьці.
Думаў — позна, навошта,
Хай стараюцца дзеці.

І медаль юбілейны
Атрымаў да бальніцы.
Ранак белы, завейны.
Толькі голас сініцы.

Як тады,
у блакаду,
У балоце заклятым
[Кулямётныя звады...
Ён з пустым аўтаматам...].

Як тады,
у блакаду,
Сіні голас сініцы.
Сэрца...
І нішто не дасць рады;
Гэта ява
Ці сніцца!

**Казімір КАМЕЙША**
(«Маладосць»)

## МАГІЛЫ КАМІСАРАЎ

Магілы камісараў...
Строгія бары,
І небасхіл у водблісках ажурных...
Да шорсткай прыхіляюся кары,
Нібы да вашых скураных
тужурак.
З тужурак вы не выраслі сваіх,
З тых дзён вы нават
іх не распраналі.
Пасечаныя ў рубцах ствалы
Мне твары вашы так напамінаюць.
І песні сёння вашы я пяю,
Што вы імчалі смела на тачанках.
І ў каравуле за ўсіх вас стаю
І бачу вашы сны начамі.
Вы дрэвам,
паміраючы тады,
І гнеў і галасы свае аддалі.
І вашы несмяротныя гады
Усё кроны неўміручыя гайдаюць.

**Уладзімір ПРАВАСУД**
(«Маладосць»)

■ ■ ■

Ёсць на Палессі вёска Палессе —
Скарбонка казак, легенд і песень.
Яна ад вятроў абгароджана борам,
Хмялееш адразу ў ёй ад чабору.

Ёсць на Палессі такая вёска,
Дзе выбягаюць насустрач бярозкі,
Дзе сосны гамоняць ля самай
хаты,
Дзе песні да зорак кідаюць
дзяўчаты.

Ёсць на Палессі вёска такая —
Мясціна майго дарагога краю.
Калі ад'язджаеш адтуль, здаецца,
Што там пакідаеш часцінку сэрца.

## Праз паэтычныя сумёты

ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРОДЫІ

**Георгі ЮРЧАНКА**
(«Маладосць»)

*Сцяпан Гаўрусёў*

Вы чалавека снежнага шукалі...
Гэта — я.

Без лютай зайздрасці і смеху,
Не апускаючы павек,
Качу рулон бясконцы снегу
Я —
самы снежны чалавек.

Вышэй і ўперад! — майна-віра!
З губамі — парай ледзяшоў —
Храбры Цянь-Шаня і Паміра
Я ўздоўж і ўпоперак прайшоў.

Хачу пасведчыць урачыста,
Сяброў не ўводзячы у зман:
Мяне не спыніць снег вячысты,
Вячысты снег і ураган.

Таму шляхі мае крывыя
Прамы пранізвае прамень;
І я ў вышыннай летаргіі
Званю снягурачцы штодзень...

*Янка Сіпакоў*

Які вуглаваты мароз!
Чапляецца за ўсё-ўсенькае:
За шчокі,
за вушы,
за нос
І нават — за каленькі.

Наогул, любіць круціцца ля
ног,
Цісне ў чаравіках то пальцы,
то пяты.
Што ні кажыце,
а, далібог,
Мароз —
вуглаваты.

Сяброўскія шаржы М. Лісоўскага

**Іван КАЛЕСНІК**
(«Маладосць»)

■ ■ ■

Устанем, давай, апаўночы
І пройдзем з табой па Маскве.
Яна, нібы кратэр, ракоча
І ціхаю песняй жыве.

Не верыцца.
Вечара мала ім.
Як сінія зоры на снег,
Між соснаў у парку Ізмайлаўскім
Дзявочы рассыпаўся смех.

Пара ўжо дадому.
Ды дзе там!
На месцы застанецца дом,
А недзе гудзе Дамадзедава —
Люблю рэактыўны гром.

Трамвай адыходзіць астатні —
Рукой на расстанне махнём.
Прыпынімся трошкі ў Астанкіне
І зблізку на вышку зірнём.

Як добра, бадзёра і свежа!
Астылі асфальт і масты.
Не дрэмлюць крамлёўскія вежы
І ля Маўзалея пасты.

На горад без стомы глядзім мы.
Заснежыла вейкі зіма.
Масква — гэта сэрца Радзімы,
А сэрцу спачыну няма...

Гэтай застаўкай мастака В. Шаранговіча адкрываецца аддзел паэзіі і прозы «Маладосці».

**Алесь Жук**

## ВОДСВЕТЫ ЗОРАК

АПАВЯДАННЕ

(«Маладосць»)

Здавалася, стаяў не канец жніўня, а была позняя восень, дажджы ішлі цэлы тыдзень, халодныя і нудныя. Дарогі раскіслі, і лужыны з кожным днём большалі, а ў лагчынах сталі падобныя на невялікія каламутныя азёрцы. Машыны не прабіваліся з шашы ў лясную вёсачку, і жанчыны, баючыся, каб не застацца без хлеба, заквашвалі дзежкі.

Голуб сядзеў за сталом, набіваў патроны і паглядаў за акно, дзе ўсё сеяўся дождж, — нібы і яму ўжо надакучыла вось так церусіцца і церусіцца. Нявесела думалася, што адпачынак не ўдаўся, што не выйшла нават пахадзіць уволю на паляванне, паначаваць у стагах сена, ля вогнішчаў на далёкіх лясных азёрах і балотах. Трацілася апошняя надзея, што наладзіцца надвор'е і можна будзе з Лідаю хадзіць па грыбы, якіх павінна быць, хоць закладай касу. Ліда будзе ехаць сёння вечарам, мабыць, апранутая па-гарадскому, у туфельках і без плашча. Будзе ехаць не да яго, а да сваіх бацькоў, у вёску, што за пяць кіламетраў адсюль, таксама сярод мокрага лесу і балот. Голуб уяўляў, як Ліда будзе выходзіць, магчыма, адна на начную пустэльную шашу, потым будзе ў цемені і гразі ісці яшчэ тры кіламетры. Ён пачынаў злавацца на яе, што ўгаварыла ехаць на адпачынак дадому, — ён хацеў падацца на Нарач, зняць там хату, і яна прыехала б да яго. Яны жылі б разам, хадзілі на паляванне, па грыбы, разам, толькі ўдваіх. Голуба мучыла, што яна не зразумела ці, яшчэ горш, прыкідвалася, што не разумее яго жадання быць разам, яго змучанасці ад гэтай раздвоенасці — быць з ёю нейкія тры разы на тыдзень, кожны раз вяртацца дадому пад раніцу, употайкі ад суседзяў. Для яго прайшла ўжо тая пара шчаслівай узрушанасці спатканняў, яму хацелася, каб яна была не проста знаёмаю жанчынаю, хацелася прыходзіць да яе кожны дзень, ісці разам раніцаю на работу, знаёміць са сваімі сябрамі і называць жонкаю.

Ён і зараз уяўляў, як будзе прыходзіць да яе вечарамі, глядзець тэлевізар, будзе прыкідвацца кавалерам, будзе сядзець з ёю ноччу ў настылых сенцах, цалаваць яе і думаць, што яшчэ трэба ісці дадому сцяжынаю праз балота, набрынялае ад дажджу, і ў цемнаце ён не раз праваліцца у твань і набярэ ў боты...

Голуб сабраў набоі ў патранташ, накінуў куртку і выйшаў на двор, зняў з мапеда, які стаяў пад страхою, цырату, завёў матор, уключыў святло, з сумам падумаў, што не па такіх дарогах ездзіць на гэтай «тэхніцы» і што трэба будзе купіць бацьку матацыкл.

Змерклася. Маці недзе забавілася ў суседак, бацькі яшчэ не было з абходу. Голуб уявіў, як ідзе ён недзе па лесе, стары, высахлы, нібы згінаецца пад цяжарам мокрае брызентавае плашч-накідкі. Ён добра помніў, як захваляваўся тады бацька, калі ён сказаў, што паедзе ў горад давучвацца ў аспірантуры. Голуб ведаў, што бацьку не хочацца, каб сын кідаў работу ў лясніцтве. Але бацька не запярэчыў, бо не ведаў, што сын ідзе на работу ў міністэрстве, каб быць бліжэй да Ліды. Цяпер бацька, мабыць, здагадаўся, што сын змяніў яму, але не будзеш жа лаяцца пасля двух гадоў ростані.

У хаце за шафаю Голуб знайшоў стары рэчавы мяшок, запхнуў у яго матчыны новыя гумавыя боты, матчын плашч, узяў у кішэню ліхтарык.

Слабасільны мапедзік, якому па сіле бегаць толькі па асфальце, выў маторам і паволі круціў колы, якія слізгаліся па дарозе. Голуб апіраўся нагамі, адпіхваўся, каб не ўпасці. Калі б не паляўнічыя бахілы, ногі былі б ужо даўно мокрыя. Пакуль выехаў на шашу, узмакрэў лоб, балелі ногі і рукі, нібы ён насек і выцягнуў з гушчару добры воз дроў. Матор перагрэўся і горача дыхаў жалезам і маслам. Голуб паставіў мапед, лінуў на яго прыгаршчы вады з лужыны. Вада з трэскам адскоквала ад нагрэтага жалеза. Голуб закурыў, каб перадыхнуць самому і даць астыць матору.

Па асфальце мапед каціўся роўна і хутка.

Праз кіламетры чатыры Голуб спыніўся.

Дождж сціх. Было цёмна і холадна. Дзьмуў паўночны вецер. Голуб падняў каўнер. Мокрая ад поту майка на плячах стала халодна-жалезнаю. Голуб закурыў і пачаў хадзіць сюды-туды ўпоперак шашы, шорхаючы адзін аб адзін бахіламі, каб сагрэцца. Потым далёка за ўзгоркам над шашою засвяцілася, і Голуб здагадаўся, што ідзе аўтобус, а неўзабаве і ўбачыў яго з трыма белымі сонцамі фар, якія набліжаліся і раптам зніклі ў лагчыне. Трывожным сполахам свяцілася цемень. Потым святло нечакана патухла. Праз колькі хвілін яно зноў запалілася, і аўтобус, светлы і шпаркі, як шчасце, набліжаўся і, не збаўляючы ходу, пранёсся міма Голуба, пругка стукаючы маторам ды несучы казытлівы пах разагрэтае салляркі.

Голуб, раптоўна разгублены і спустошаны, цяжка пайшоў да мапеда і толькі тады заўважыў «казла», які спуджана заморгаў падфарнікам і спыніўся ля яго. У кабіне запалілася святло, пстрыкнуў замок дзверцаў — і ён убачыў Ліду, такую нечакана прыгожую, з падведзенымі вачыма, падфарбаванымі вуснамі, у кароткай спадніцы, у шпілечках на нагах, у ружовай спартыўнай куртачцы з блакітным каўнерыкам.

— Няўжо ты хацеў падвезці мяне на сваім кату? А які ты!? — засмяялася яна сваімі прыгожымі роўнымі зубамі, і ён адчуў, які ён нехлямяжы, у заляпаных гразёю бахілах, у размоклай і пляскатай, як блінец, шапцы, з «сідарам» за плячыма, побач з ёю, такою ўпэўненаю ў сваёй прывабнасці.

— Ты ж толькі за намі не ўздумай ехаць, — наказвала яна. І ён не разумеў, ці яна гаворыць сур'ёзна ці хоча пахваліцца перад сваімі спадарожнікамі, — траіма вясковымі жанчынамі, — як ён кахае яе. Ён адчуў, што яму становіцца горача і хочацца закрыць рукою гэты прыгожы белазубы рот.

— Ладна... — толькі і знайшоўся адказаць ён і асцярожна зачыніў дзверцы.

І калі машына прапала ў начной чарнаце, ён падумаў, што недарэчна хваляваўся з-за яе, быццам калгасны агрaном не можа сустрэць сваю дачку на машыне. Але было чамусьці непрыемна ад яе смеху, ад паблажлівай забароны не ехаць за ёю, ад таго, што ёй, мабыць, не прыйшло і ў галаву падумаць, як ён будзе дабірацца дадому па гэткай гразі, што прыехаў ён сюды дзеля яе.

Пад ветрам пабялеў асфальт, і колы лёгка шумелі. Ад думкі, што асфальт скора кончыцца і пачнецца гразь, Голубу стала злосна, і ён са злосцю гнаў мапед, і па шашы, і па прасёлку, з радасцю, помслівою і дурною, чакаў, што вось-вось не вытрымае і заклінуецца ад гарачыні маленькі кулачок поршня.

Дома ўжо не было святла. Голуб паставіў пад страху мапед, ахінуў цыратаю, выйшаў на вуліцу, доўга мыў у лужыне боты.

— Гэта ты, Павел? — запыталася з цемнаты маці.

— Не. А што, бацькі няма? — у сваю чаргу запытаўся Голуб.

— Мабыць, не прыйдзе. Ён у такую пагоду як натомiцца, дык дадому не даходзіць, начуе ў Ігната. Састарэў ужэ. Табе, можа, вячэраць даць? — клапатліва азвалася маці.

— Не трэба. Я сам вазьму, — супакоіў яе Голуб, зайшоў у свой пакой, запаліў святло. Потым ён схадзіў у сенцы, прынёс талерку з салам, гуркоў, узяў кубак, зроблены з расклепанай снараднай гільзы, вярнуўся ў сенцы і наліў амаль поўны самагонкі.

Святло праз занавеску падала на матчын твар, і Голуб пстрыкнуў выключальнікам. Ён у цемнаце піў самагонку, хрумстаў гурком і зноў піў і адчуваў, што не праходзіць сум, адзінота. Вось не атрымалася ў яго са шчасцем, і не быў ён шчаслівым гэтыя два гады, і кахае ж Ліду, кахае... Голуб піў і ўяўляў, як сядзіць бацька з Ігнатам у закінутай сярод гушчару лесніччоўцы з пачарнелых бярвенняў, абодва пасівелыя ад старасці, барадатыя, п'юць самагонку, кураць махорку, ад дыму якой сіне, а калі добра вып'юць, заспяваюць сумную даўнюю песню, потым будуць спаць, спакойна і моцна. Успомнілася, як са шкадаваннем і любасцю гаварыла пра бацьку маці, і ўявіў, што было б, каб сказаў Лідзе, што вернецца назад у лясніцтва...

Потым ён курыў, глядзеў за акно. На дварэ крыху распагодзілася, і водсветы скупых далёкіх зорак холадна блішчэлі на вадзе лужын. А ён усё сядзеў і курыў. І не чуў, як зноў пачаўся дождж.

## НЕМАН № 2

Часопіс друкуе вершы Б. Спрынчана, А. Дракахруста, М. Яцука, В. Унуковіча, Л. Дайнекі, А. Русака (пераклад Ф. Яфімава), апавяданні М. Ракітнага (пераклад М. Вышынскага), С. Курылёвай, П. Лісіцына, В. Адамчыка (пераклад Н. Кісліка), заканчэнне гістарычнай хронікі Б. Клейна «Доктар Русель».

У раздзеле публіцыстыкі змешчаны артыкул В. Яўціхевіча «Лёс зямлі» (аб ахове, упарадкаванні і паляпшэнні пасяўных плошчаў Беларусі) і нарыс І. Аксельрода «Так будаваўся Маўзалей». Герой Савецкага Саюза М. Міхайламаў выступае з успамінамі аб партызанскай барацьбе на Вілейшчыне ў гады Айчыннай вайны.

Пад рубрыкай «Мастацтва» змешчан артыкул Г. Коласа пра народнага артыста БССР Ул. Дзядзюшку.

У раздзеле крытыкі — артыкул Я. Шпакоўскага пра паэзію П. Макаля. У раздзеле «Памятныя даты» часопіс адзначае 100-годдзе з дня нараджэння Н. К. Крупскай, 200-годдзе з дня нараджэння І. А. Крылова і 100-годдзе з дня нараджэння Аванеса Туманяна.

У раздзеле «Чалавек і прырода» змешчаны нататкі Ул. Кудзінава «Пронькіны двары».

У часопісе ёсць раздзел «Розныя рознасці».

